БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

11 чэрвеня 1994 г.
Субота
№ 63(13780)
Кошт у розніцу 100 рублёў
Выдаецца з 1921 года

У НУМАРЫ:



*Малюе Віктар ДУБОВІК*




Субота любіць чысціню.

Фота Сяргея БРУШКО.

## Кур'ер "ЧЗ"

### Якім будзе першы прэзідэнцкі ўказ?

*На гэтае пытанне ўжо можна даць адказ з той ці іншай ступенню верагоднасці, паколькі кандыдаты на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, як сведчаць іх выступленні, у сваіх поглядах вызначыліся.*

Вячаслаў Кебіч заявіў, што першым падпісаным ім дакументам на вышэйшай пасадзе рэспублікі будзе ўказ аб барацьбе са злачыннасцю. У тым жа напрамку мае намер пачаць свае дзеянні і Аляксандр Лукашэнка. Яго праграма-мінімум на прэзідэнцкай пасадзе – вырашэнне кадравых пытанняў, у першую чаргу – адхіленне ад улады службовых асоб, замешаных у карупцыі.

Паводле слоў кіраўніка групы падтрымкі Зянона Пазьняка Сяргея Навумчыка, першым указам лідэра БНФ, у выпадку, калі ён будзе выбраны на прэзідэнцкую пасаду, стане зняцце з пасады міністраў, якія курыруюць сродкі масавай інфармацыі. А вось Аляксандр Дубко і Станіслаў Шушкевіч маюць намер пачаць з вырашэння эканамічных праблем.

Не такая адназначная пазіцыя лідэра камуністаў. Як было заяўлена на прэс-канферэнцыі Васіля Новікава, у выпадку пераканаўчай перамогі левых сіл, магчыма, яго першым указам будзе ўказ аб ануляванні прэзідэнцкай пасады. Калі ж гэтага не адбудзецца, то першым дакументам, які ён падпіша, будзе ўказ аб прыпыненні тых рынкавых рэформ, якія мы маем на сённяшні дзень.

### Будзе прэзідэнт, калі...

*...За каго-небудзь з цяперашніх кандыдатаў у першым туры выбараў прагаласуе хоць бы 3 мільёны 674 тысячы 856 выбаршчыкаў.*

Менавіта такая лічба на 1 чалавека перавышае палову ўнесеных у спісы для галасавання. Паводле звестак, якія ёсць у Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, усяго ў галасаванні маюць права прыняць удзел 7 мільёнаў 349 тысяч 710 чалавек.

Па Брэсцкай вобласці ў спісы для галасавання ўнесена 1.045.778 чалавек, Віцебскай – 1.036.088, Гомельскай – 1.132.824, Гродзенскай – 860.754, Магілёўскай – 884.330, і па Мінскай – 1.152.576. У сталіцы рэспублікі ў спісы для галасавання ўнесена 1.237.360 выбаршчыкаў.

Дакладных звестак аб грамадзянах рэспублікі, якія будуць галасаваць за мяжой, пакуль няма, аднак, паводле папярэдніх даных, гэта лічба не перавысіць 2000 чалавек.

### Намеры не караюцца

*У сувязі з апублікаванымі ў газеце "Белорусская нива" рашэннямі саюза аграрнікаў і савета калгасаў аб рабоце па падтрымцы кандыдатуры Аляксандра Дубко, у спектры якіх было прынята рашэнне аб пералічэннях усімі калектыўнымі членамі гэтых аб'яднанняў сумы ў размеры не менш як 2 мільёны беларускіх рублёў, у Цэнтральную камісію па выбарах паступілі звароты выбаршчыкаў з просьбай даць юрыдычную ацэнку такому рашэнню.*

– Паколькі пакуль не даказана, што грошы гэтыя будуць выкарыстаны менавіта на правядзенне агітацыйнай кампаніі кандыдата ад аграрнікаў, мы вырашылі ніякіх мер не прымаць,– паведаміў сакратар Цэнтральнай камісіі Іван Ліхач.– Аднак, як толькі будуць выяўлены такія факты, мы вымушаны будзем прымяніць адпаведныя санкцыі.

### Кандыдаты пакуль эканомяць

*Ні адзін з прэтэндэнтаў на прэзідэнцкую пасаду яшчэ не "вычарпаў" выдзеленыя з дзяржаўнага бюджэту 20 мільёнаў на правядзенне агітацыйнай кампаніі.*

Пакуль у Цэнтральную камісію прадстаўлены рахункі толькі за друкаванне агітацыйных плакатаў і лістовак. Нягледзячы на сцвярджэнні скептыкаў, што выдзеленая сума мізэрная, кандыдаты на прэзідэнцкую пасаду расходуюць яе эканомна.

БЕЛІНФАРМ.

### Тварог па-за ротам

*Штодзённая патрэба Віцебска ў тварожных вырабах складае 6—7 тон. У нядаўнім мінулым яе поўнасцю задавальняў мясцовы камбінат. Аднак у маі заяўкі гандлю на тварог узраслі да 25 тон. І хоць камбінат спраўляецца і з гэтым, каштоўнага кісламалочнага прадукту катастрафічна не хапае для гараджан. Яго як быццам і не паступае на прылаўкі магазінаў.*

Справа ў тым, што тварог адразу ж "размятаецца" дробнымі чаўнакамі і з іх лёгкай рукі ды нячыстага сумлення перавозіцца ў Расію. Віцебскі тварог распрадаецца на прывакзальных плошчах Масквы, Санкт-Пецярбурга, Смаленска. Ён стаў нязменным і выгадным прадуктам харчавання ў бліжэйшых, сумежных з Віцебшчынай, населеных пунктах суседняй дзяржавы.

Яўгенія ВІЦЬБА.

### Вёска Чысць на міжнароднай арбіце

*Вёска Чысць Маладзечанскага раёна нядаўна стала эпіцэнтрам не толькі рэспубліканскай, але і міжнароднай увагі. Днямі над ёю луналі сцягі Германіі, Турцыі, Расіі, Беларусі.*

Тут адбылася ўрачыстая цырымонія закладкі капсулы і першага каменя буйнейшага домабудаўнічага камбіната ў рэспубліцы.

Мікола КАПЫЛОВІЧ.

### Прыгавор са столі

*Мабыць, выносячы прыгавор, Докшыцкі раённы суд паглядвае не толькі ў Крымінальны кодэкс, але і на столь, якая дамоклавым мечам завісла над тутэйшым правасуддзем.*

Як тут ні паглядваць, калі ў любую хвіліну цябе можа пакараць тынк, які зваліцца на галаву, ці астудзіць занадта гарачага суддзю халодны вадзяны "душ". Будынак народнага суда ў аварыйным стане, таму асуджанаму на пакуты правасуддзю застаецца спадзявацца хіба на літасць боскую.

Уладзімір МІХНО.

### Фашысты зноў у Мінску?




*У ноч з 7 на 8 чэрвеня кіёск Таварыства беларускай мовы на праспекце Ф.Скарыны быў "упрыгожаны" фашысцкай свастыкай (на здымку). Толькі пасля звароту фотакарэспандэнта да паставога міліцыянера (пост знаходзіцца побач, ля Дзяржбанка) пра гэта паведамілі дзяжурнаму па гораду.*

Хто гэта зрабіў? Несумненна, тыя, каму бяльмом на воку наша нацыянальная сімволіка. Вядома, ніхто не возьме на сябе адказнасць за ўчыненае. Яно і зразумела – шакалы кусаюць цішком.

Фота Яўгенія КАЗЮЛІ.

### Курсы валют на 10 чэрвеня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 21375 | 22050 | 12825 | 13200 |
| "Прыор" | 21650 | 22000 | 12840 | 13080 |
| "Пошук" | 21800 | 22300 | 13200 | 13500 |

ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

## Назарбаеў выступае з новай ініцыятывай. Нашаму спікеру яна падабаецца

☐ Вольга ШАЎКО, "ЧЗ"

*Як паведамлялася ўжо, дэлегацыя нашай рэспублікі на чале з Мечаславам Грыбам прымала ўдзел у пасяджэнні Савета Міжпарламенцкай Асамблеі дзяржаў-удзельніц СНД у Санкт-Пецярбургу. Адразу, пасля вяртання нашых пасланцоў у Мінск, яны правялі прэс-канферэнцыю.*

Чарговая міжнародная сустрэча вызначалася высокім узроўнем. На ёй упершыню прысутнічалі ўсе першыя асобы парламентаў Азербайджана, Арменіі, Беларусі, Грузіі, Казахстана, Кіргізіі, Расіі, Таджыкістана. Упершыню на гэтым пасяджэнні разам з іншымі дзяржаўнымі сцягамі рэспублік СНД быў падняты дзяржаўны сцяг Малдовы.

Журналісты даведаліся, што пасяджэнне было выніковым. На ім абмяркоўвалася 18 пытанняў, па ўсіх іх прыняты адпаведныя рашэнні. У прыватнасці кіраўнікі парламентаў вялікую ўвагу ўдзялілі ўзгодненасці дзеянняў па збліжэнню нацыянальных заканадаўстваў, згадзіліся з неабходнасцю распрацоўкі законаў аб бежанцах, аб міграцыі працоўных рэсурсаў на тэрыторыі Садружнасці. Прынята таксама прапанова камітэта па справах воінаў-інтэрнацыяналістаў аб паскарэнні рэалізацыі рэкамендацый па пытаннях прававой і сацыяльнай абароны ўдзельнікаў вайны ў Афганістане і іншых краінах, дзе вяліся баявыя дзеянні. Абмяркоўвалася пытанне аб утварэнні міратворчых сіл Садружнасці. Падкрэслівалася, што яны павінны фарміравацца на добраахвотнай аснове і з улікам існуючых заканадаўстваў. Заўважым, што ў нашай рэспубліцы гэта пытанне знаходзіцца ў кампетэнцыі Вярхоўнага Савета.

На Савеце было падкрэслена таксама, што міратворчыя акцыі міждзяржаўнага ўтварэння прынеслі свой плён па вырашэнню канфлікту ў Нагорным Карабаху. З 10 мая на тэрыторыі Азербайджана і Нагорнага Карабаха ўжо няма актыўных баявых дзеянняў.

На пытанне журналістаў, ці закраналіся на сустрэчы нейкім чынам перспектывы аб'яднання грашовых сістэм Расіі і Беларусі, М.Грыб адказаў, што па гэтай справе не было чаго абмяркоўваць, бо няма чаго аб'ядноўваць. Нягледзячы на тое, што дагавор падпісаны двума прэм'ер-міністрамі, да яго яшчэ трэба рабіць цэлы шэраг дадатковых дакументаў.

Аднак на гарызонце маячыць перспектыва іншага аб'яднання. Прэзідэнт Казахстана Нарсултан Назарбаеў даслаў нашаму спікеру шыфраграму з прапановай аб стварэнні Еўраазіяцкага Саюза. Як лічыць М.Грыб, гэтая ініцыятыва павінна стаць вядомай шырокай грамадскасці і па згодзе з Казахстанскім бокам будзе распаўсюджана ў прэсе. На погляд нашага Старшыні Вярхоўнага Савета прапанова вельмі цікавая, бо прадугледжвае раўнапраўнае аб'яднанне дзяржаў. Новае міждзяржаўнае ўтварэнне выключае розныя асацыіраваныя членствы, у яго не могуць увайсці тыя дзяржавы, на тэрыторыі якіх вядуцца ваенныя дзеянні.

Напрошваецца ў такім выпадку пытанне, а якія ж дзяржавы ўвогуле могуць скласці аснову Еўраазіяцкага Саюза? Беларусь, Казахстан і, калі захоча, Расія. Астатнія або маюць ваенныя канфлікты, або, як Украіна, з'яўляюцца прыхільнікамі асацыіраванага членства. Паводле слоў выканаўчага сакратара СНД Івана Каратчэні, палова дзяржаў адносіцца да гэтай ідэі вельмі адмоўна.

І ўсё ж, ведаючы настойлівасць Н.Назарбаева, падкрэсліў Мечаслаў Грыб, прапанова можа быць абмеркавана на дзяржаўным узроўні ўжо ў хуткім часе.

## Культура і друк у адной запрэжцы

☐ Лілія ГРЫНЯВЕЦКАЯ, "ЧЗ"

*Прэса, мастацтва, культура і кіраванне імі з боку дзяржавы. Гэтай тэме была прысвечана прэс-канферэнцыя міністра культуры і друку А.І. Бутэвіча, што адбылася ў нацыянальным прэс-цэнтры.*

Новае Міністэрства ўтварылася ў выніку аб'яднання Міністэрстваў культуры і інфармацыі. На думку А.І. Бутэвіча, падобныя рэарганізацыі ўладных структур звязаны са стварэннем незалежнай дзяржавы. Да таго ж, паводле слоў міністра, культурная сфера і інфармацыйная заўсёды перасякаліся. Сярод задач новаўтворанага Міністэрства матэрыяльная падтрымка творчых людзей (так, напрыклад, народныя артысты, пісьменнікі, мастакі нашай рэспублікі з 1 чэрвеня будуць атрымліваць штомесячную даплату ў памеры 5 мінімальных заробкаў), захаванне набытых культурных каштоўнасцей, адраджэнне народных мастацтваў і рамёстваў, уваходжанне ў сусветную і еўрапейскую культурную і інфармацыйную прастору.

Безумоўна, для выканання гэтых задач патрэбна моцная заканадаўчая і матэрыяльна-тэхнічная база. Магчыма, неўзабаве на Віцебшчыне будзе пабудаваны свой папярова-цэлюлозны камбінат.

Зразумела, журналістаў, якія прысутнічалі на прэс-канферэнцыі, найперш хвалявалі праблемы друку і свабоды слова ў рэспубліцы. Ці можа быць свабоднай прэса, якая фінансуецца дзяржавай, чаму традыцыйным стала абавязковае друкаванне вядучымі цэнтральнымі газетамі выступленняў і прамоў першых асоб дзяржавы, у рэспубліканскіх бібліятэках практычна няма замежнай перыёдыкі, а незалежная рэспубліка не мае фактычна ніводнага сталага карпункта за мяжой. Міністэрства культуры і друку, заўважыў А.І. Бутэвіч, мае намер улічваць грамадскія настроі, рэгуляваць і акумуляваць іх.

### КАНДЫДАТ У ПРЭЗІДЭНТЫ БЕЛАРУСІ ВЯЧАСЛАЎ КЕБІЧ АДКАЗАЎ НА ПЫТАННЕ КАМЕНТАТАРА ТЭЛЕБАЧАННЯ "АСТАНКІНА" ІГАРА ДЗЕМІНА

**Пытанне.** Вячаслаў Францавіч, пачалася афіцыйная перадвыбарная кампанія, прэтэндэнты ўдзельнічаюць у ёй па-рознаму. З чым вы ўступаеце ў барацьбу, што хочаце сказаць выбаршчыкам?

Адказ. Я ведаю, як буду дзейнічаць і якія рабіць крокі. Думаю, што сёння Беларусь, як аўтамабіль на складанай дарозе. Трэба выбраць таго, хто гэты аўтамабіль павядзе. Усе прэтэндэнты ведаюць, куды ехаць – да добрага жыцця. Я ведаю, як даехаць, бяруся давезці, магу расказаць, што чакае ў дарозе. Звяртаючыся да выбаршчыкаў, хачу сказаць: "Не верце на слова. Думайце, разлічвайце і супастаўляйце. Упэўнены, што пры сур'ёзнай, глыбокай размове вы мяне зразумееце".

У час сустрэч з выбаршчыкамі мне задалі і перадалі больш за тысячу пытанняў. Большасць з іх – аб праграме, аб будучыні Беларусі, аб адносінах з Расіяй. Былі і асабістыя пытанні. Адказваю цяпер на тыя дзесяць з іх, якія былі звязаны з абвінавачаннямі ў мой адрас. Нерухомасці і іншай уласнасці за мяжой, рахункаў у замежных і якіх-небудзь іншых банках у мяне не было і няма. Так званых "карупцыянераў" не пакрываў і не пакрываю. Хабар не браў і не бяру. Мой аклад 900 тысяч рублёў у месяц. Карыстаюся дзярждачай і службовым аўтамабілем. Пра сваё асабістае жыццё гаварыць не люблю. Ды і амаль няма яго цяпер, засталася адна работа.

Хачу звярнуцца да ўсіх выбаршчыкаў – грамадзян Беларусі – з заявай.

23 чэрвеня г.г. нам усім трэба будзе зрабіць сур'ёзны выбар, ад вынікаў якога будзе залежаць перспектыва і далейшы лёс нашай радзімы. Выбары першага прэзідэнта Беларусі – гэта ўсенароднае выбранне кіраўніка дзяржавы. З яго імем людзі, увесь народ будуць звязваць надзеі на станоўчыя перамены ў жыцці, веру ў заўтрашні дзень, сваю сацыяльную і прававую абароненасць, умацаванне стабільнасці і згоды ў грамадстве.

Памыліцца ў выбары першага прэзідэнта Беларусі недапушчальна. Выбаршчыкі маюць права ведаць усё пра сваіх кандыдатаў. Але выбаршчыкі не павінны стаць ахвярамі наўмысных скажэнняў фактаў і інсінуацый. Сусветны вопыт перадвыбарнай барацьбы гаворыць пра тое, што выбаршчыкі, асабліва ў краінах, якія ўпершыню ўсенародна выбіраюць свайго лідэра, зачастую становяцца аб'ектамі дэзінфармацыі і свядомага паклёпу кандыдатаў адзін на аднаго. Беларусі да цяперашняга часу ўдавалася захаваць мір і згоду. Будзем даражыць імі.

Таму я выступаю рашучым праціўнікам выкарыстання ў выбарчай кампаніі брудных метадаў, гучных абвінавачанняў, якія не паддаюцца праверцы да канца выбараў.

Лічу, што кожны выбаршчык павінен быць абаронены ад бруду, які пэўныя колы будуць імкнуцца выкарыстаць як спосаб уплыву на ход выбарчай кампаніі.

Праўду выбаршчыкам павінны несці перш за ўсё самі кандыдаты ў прэзідэнты і іх давераныя асобы, якія адказваюць за кожнае сваё слова.

Як кандыдат у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, прымаю на сябе абавязацельства дзейнічаць у адпаведнасці з дадзенай заявай. У гэтым бачу свой абавязак перад выбаршчыкамі.

*У сённяшнім нумары мы друкуем праграму кандыдата ў прэзідэнты В.Ф.Кебіча (2-я старонка).*

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

"Еўраньюс" — "Суперчэннэл" — "Уорлднэт" — "TV-5"



### ПАМЫЛКА МУСАЛІНІ

*У інтэрв'ю нямецкаму часопісу "Штэрн" лідэр італьянскіх неафашыстаў Фіні заявіў, што Мусаліні ніколі не быў злачынцам.*

Паводле слоў Фіні, памылкай Мусаліні было толькі тое, што ён увайшоў у кааліцыю з Гітлерам. Многія італьянцы, паводле заявы Фіні, лічаць, што Мусаліні "зрабіў шмат добрага для сваёй краіны".

### СЕУЛ РЫХТУЕЦЦА ДА ВАЙНЫ

*Узброеныя сілы Паўднёвай Карэі і некалькі дзесяткаў тысяч амерыканскіх салдат гатовы адбіць магчымы напад Паўночнай Карэі.*

Армія прыведзена ў стан поўнай баявой гатоўнасці. Гэтыя меры прыняты пасля неаднаразовых выказванняў паўночнакарэйскіх лідэраў пра тое, што ўвядзенне санкцый супраць іх краіны будзе азначаць аб'яўленне вайны.

### ВЫБІРАЮЦЬ ЕЎРАПАРЛАМЕНТ

*У чатырох еўрапейскіх краінах ужо адбылося галасаванне з нагоды выбараў членаў Еўрапарламента. Вынікі выбараў будуць апублікаваны пасля таго, як у нядзелю пройдзе галасаванне ў астатніх васьмі краінах.*

У Вялікабрытаніі актыўнасць выбаршчыкаў нізкая. Чакаецца, што кіруючая кансерватыўная партыя атрымае 32 месцы, а апазіцыйная лейбарысцкая — 50 месцаў. У Ірландыі, у адной з самых бедных краін Супольнасці, чакаецца, что кіруючая партыя атрымае 6 месц. У Галандыі, здаецца перамаглі кіруючыя хрысціянскія дэмакраты, хоць у галасаванні прынялі ўдзел толькі 30 працэнтаў выбаршчыкаў.

### "МІЛЫЯ СВАРАЦЦА – ТОЛЬКІ ЦЕШАЦЦА..."

*Гэту народную мудрасць яшчэ раз пацвердзіла сустрэча міністраў замежных спраў Турцыі і Грэцыі, на якой быў абмеркаваны цэлы шэраг пытанняў з нагоды напружаных адносін паміж дзвюма краінамі.*

Сярод іх — пагроза Турцыі акупіраваць грэчаскія астравы, калі Грэцыя пашырыць свае тэрытарыяльныя воды ў Эгейскім моры. Міністры прыйшлі да выніку аб неабходнасці стварэння новай, пазітыўнай атмасферы ва ўзаемаадносінах паміж дзвюма краінамі.

### "МАЛЫ" БІЗНЕС ВЯЛІКІХ ДЗЯРЖАЎ

*У польскім горадзе Гдыня адкрыўся кірмаш па развіццю "малога" бізнесу.*

Больш як 400 фірм з Польшчы і 1500 кампаній з краін Еўрапейскага Саюза, Афрыкі і Азіі прымаюць у ім удзел. Такі кірмаш звычайна праходзіць два разы ў год. Упершыню ён адбыўся ў Ірландыі ў 1988 годзе. Зараз ён упершыню праходзіць у краіне, якая не з'яўляецца членам Еўрапейскай Садружнасці.

### З ТЭНАРАЎ – У ДЫРЭКТАРЫ

*Адзін з лепшых тэнараў свету Пласіда Дамінга знаходзіцца ў ЗША, дзе абмяркоўваецца пытанне аб яго прызначэнні дырэктарам опернага тэатра ў Вашынгтоне.*

Інфармацыйныя агенцтвы пацвердзілі, што 53-гадовы іспанец вядзе перамовы з прадстаўнікамі тэатра, але ніводны дакумент яшчэ не падпісаны. Працуючы дырэктарам, Дамінга зможа ўплываць на выбар рэпертуара спевакоў, дырыжораў.

(Працяг на 3-й стар.).

*Дзяжурныя па выпуску: перакладчыкі Віктар КАПАЧЭЛЬ, Андрэй СІДАРАЎ, рэдактар Павел СІМАНАЎ.*

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

